В этот период автор принимает участие в возрождении газеты "Наша Ніва", а также публикуется в ней (как под своим именем, так и под псевдонимом). В этой газете выходят как его стихи, так и философские эссе. Именно в последних практики постколониализма, на наш взгляд, проявляются особенно ярко в форме поиска местонахождения как себя, так и беларусского общества как такового. Место это описывается автором как состояние "между", состояние на руинах. И вызов этого состояния есть не возрождение – как новое строительство на руинах (определенные антиколониальные практики, возведение нового на месте рухнувшего старого), – а их понимание, объяснение, "попытка остаться здесь и сейчас – среди руин".

В опубликованных в "Нашей Ніве" отрывках "Менскай оперы" (Наша Ніва, 1993) у И. Бобкова можно проследить и элементы игры с колониальными практиками в виде попытки представить историю по-другому, воображая, как было бы, если бы Беларуси удалось удержать свою независимость и развиваться вне российской имперской парадигмы.

Начиная с 1995 года, в изменённой "Нашай Ніве", И. Бобков начинает вести авторскую колонку, в которой пытается описать новую общественно-политическую ситуацию в независимой республике. В 1996 году И. Бобков начинает выпуск журнала "Фрагменты" (Фрагменты…, 1996–1997), а в редакторском предисловии к выпуску №1–2 1997 года провозглашает смерть беларусского народа.

Роль творчества И. Бобкова в формировании национальной идеи на этом этапе, на наш взгляд, заключается в постколониальных практиках осмысления современного месторасположения, описания и понимания ситуации здесь и сейчас, в попытке сделать это с помощью иной традиции, которую беларусской культуре ещё предстоит приобрести (Наша Ніва, 1992).

В конце нашего исследования мы перефразируем мысль М. Павлишина о том, что процессы, практики формирования национальной идентичности в выбранных нами странах нельзя назвать постколониальными. Можно выделить лишь некоторые попытки таковых, которые, как мы надеемся, смогут помочь обществам обеих стран найти и обозначить себя в современном постмодерном мире.

***Библиография***

1. Андруховіч, Ю. (1997). *Екзотичні птахи і рослини.* Ивано-Франківськ.

2. Андруховіч, Ю. (2006). *Уводзіны ў геаграфію: паэзія, проза, эсэістыка*. Пер. з украінскай. Мінск: Логвінаў.

3. Андруховіч, Ю. *Личный блог.* URL: http://andruhovych.info/content/page/58/

4. Бабкоў, І. М. (1992). *Solux Rex.* Мінск: Мастацкая літаратура.

5. Бреский, О. и Бреская, О. (2008). *От транзитологии к теории Пограничья. Очерки деконструкции концепта “Восточная Европа”.* Вильнюс: ЕГУ.

6. К’ёсэў, Аляксандр (1999). “Самакалянізаваныя культуры”, *Фрагменты,* №1–2: 217–228.

7. *Наша Ніва* (1992). Супроць Адраджэння, №9.

8. *Наша Ніва* (1993). Mienskaja opera. №18, 1993.

9. *Небо і площі: Поезії* (1985). Київ: Молодь.

10. Нодия, Г. *Национализм и демократия: национальный компонент демократии.* URL: http://www.geocities.com/abkhazia_dream/public/20.htm

11. Павлишин, М. *Постколоніальна теорія і критика.* URL: http://vpered.wordpress.com/2009/10/08/постколоніальна-теорія-і-критика

12. Паўлішын, М. “Казакі на Ямайцы: праявы посткаланілізму ў сучаснай украінскай культуры", *Материалы по курсу "Теория пограничья".*

13. Томпсан, Э. (2009). *Песняры імперыі: расійская літаратура і каланіялізм.* Пер. з англ. мовы. Мінск: Медысонт.

14. *Фрагменты філязофіі, культуралёгіі, літаратуры* (1996–1997). Цэнтр Эўрап. супрацоўніцтва “Эўрафорум”. Мінск.

15. Центр по изучению межнациональных отношений, Институт этнологии и антропологии АН СССР (1991). *Гражданские движения в Белоруссии.* Москва: ЦИМО.

16. Kohn, H. (1945). *The Idea of Nationalism.* Macmillan: New York.

17. Kuzio, T. (1999). “Nation and State Building, Historical Legacies and National Identities in Belarus and Ukraine: a Comparative Analysis”, *Canadian Review of Studies in Nationalism,* vol. XXVI. Nos.1–2: 69–90.

18. Schneck, S. *Nationalism and the Problem of Democracy: A Response to Professor Nodia.* URL (доступ 18.05.2008): http://www.crvp.org/book/Series04/IVA-7/chapter_vi.htmhttp://www.kremlin.ru/text/appears/2007/11/150256.shtmlhttp://www.kremlin.ru/text/appears/1999/12/59568.shtmlhttp://www.nmnby.org/pub/0707/31m.html

19. Surzhko-Harneda, L. (2010). “Liberal nationalism, nationalist liberalization, and democracy: the cases of post-Soviet Estonia and Ukraine”, *Nationalities Paper,* 38, 5: 623–646.

# АД (НУТРЫ)МОЎНЫХ ПРАБЛЕМАЎ ДА ПРАБЛЕМАЎ МОВЫ (ГЛЁТАПАЛІТЫЧНЫ ПАДЫХОД ДА РАЗУМЕНЬНЯ МОЎНАГА РОЗНАГАЛОСЬСЯ Ў БЕЛАРУСІ)

УЛАДЗІСЛАЎ ІВАНОЎ

***Анатацыя:*** Нутрымоўныя праблемы беларускай мовы ў кантэксьце дамінаваньня рускай мовы, як мовы ўладнай эліты, засталіся без вырашэньня і перакінуліся ў праблему мовы – яе сяньняшні заняпад і магчымае выміраньне заўтра. Праз глётапалітычны аналіз (напр. праз пасярэдніцтва такіх крытэраў, як фэмінізацыя мовы, ужываньне дыялектызмаў, распрацаванасьць спэцтэрміналёгіі і інш.) удаецца выразна зразумець ня толькі моўнае рознагалосьсе двух варыянтаў мовы – тарашкевіцы і наркамаўкі, але і палітычныя мэханізмы маргіналізацыі і выцісканьня беларускай мовы з публічнага поля.

***Ключавыя словы:*** Глётапалітыка, сацыялінгвістыка, моўная палітыка, тарашкевіца, наркамаўка, выпрацоўка кампрамісу.

# FROM INTRA-LINGUISTIC PROBLEMS TO THE PROBLEMS OF LANGUAGE (GLOTTOPOLITICAL APPROACH TO UNDERSTANDING THE LINGUISTIC CONFLICT IN BELARUS)

***Abstract:*** The internal problems of the Belarusian language in the context of the Russian language domination among the ruling elite were left without solution and spread to the problem of the language – its current decline and possible extinction tomorrow. By employing glottopolitical analysis (for example, such criteria as language feminization, the use of dialecticisms, the development of scientific vocabulary, etc.) we can clearly understand not only the linguistic conflict between the two versions of the Belarusian language – taraškievica and narkamaйka, but also the political mechanisms of marginalization and exclusion of the Belarusian language from the public sphere.

***Keywords:*** Glottopolitics, Sociolinguistics, Language Policy, Taraškievica, Narkamaйka, Search for Compromise.

Напачатку варта ўдакладніць досыць агульнае пасланьне назвы тэмы. Калі казаць проста і сьцісла, то маецца на ўвазе тое, як нутрымоўныя праблемы (правапіснае рознагалосьсе, недасканаласьць правапісу і пад.) з цягам часу становяцца вонкавымі, агульнымі, ідэалягічнымі, палітычнымі, і вядуць ня толькі да крызы граматыкі, а да крызы мовы наагул, да заняпаду мовы. У выніку мы маем справу з праблемай беларускай мовы і ейнай спрычыненасьцю да рэчаіснасьці.

Шмат напісана працаў мовазнаўчага кшталту пра заняпад беларускай мовы ўчора і сёньня. І амаль адсутнічае зладжаны паліталягічны, глётапалічыны падыход да пытаньня. А гэты падыход сёньня якраз і патрэбны, бо беларуская мова, як, дарэчы, любая іншая мова, даўно ўжо стала аб'ектам іншых дысцыплінаў (этналёгіі, гісторыі, сацыялёгіі, паліталёгіі, палітыкі і г. д.). У межах глётапалітычнага падыходу (***glottopolitique*** – панятак, які ахоплівае ня толькі сацыялінгвістычны аналіз мовы, але таксама палітычны, усе відавочныя і прыхаваныя формы ўплыву грамадзтва і палітыкі на мову; панятак, уведзены ва ўжытак францускімі сацыялінгвістамі Ж.-Б. Марсэлезі і Л. Геспэнам)[1] мы якраз і паспрабуем накідаць асноўныя развагі палітоляга аб моўнай праблеме ў Беларусі. Такім парадкам, *глётапалітычнасьць* ці *глётапалітыка* ахоплівае ня толькі мовазнаўчы падыход, але ў дадатак падыход палітычны і ідэалягічны. Нас цікавіць ня толькі тое, чаму, напрыклад, пішацца літара “э” у слове “фэмінізм” у адным варыянце мовы і літара “е” у другім, а і тое, чаму дадзенае рознагалосьсе застаецца і мае сэнс, не зважаючы на новую ўніфікацыю і рэфармаваньне мовы ў 2009 годзе, і тым больш, не зважаючы на нашыя моўныя і эстэтычныя густы. Чаму пэўная частка беларускамоўных працягвае пісаць на тарашкевіцы, а іншая на наркамаўцы? Чаму застаецца гэты прынцыповы падзел на праграму-максымум (тарашкевіца) і праграму-мінімум (наркамаўка, школьны правапіс)? Чаму значная частка ўчорашніх *тарашкевічанцаў* перайшла на школьны правапіс? І чаму беларуская мова дыяспары застаецца адданай тарашкевіцы? Няма сумневу, што на ўсе гэтыя пытанні магчыма адказаць, выкарыстоўваючы палітычны, глётапалітычны аналіз. Дадзены аналіз прапануе вылучыць і разгледзець агентаў і інстанцыі моўнага поля, і узаемадачыненьні моўнага пляну. Нас цікавяць глётапалітычныя сілы пэўнай краіны: інстытуты, газэты, партыі, рухі, асобныя палітыкі, інтэлектуалы, пісьменьнікі, мовазнаўцы, і іх пазыцыя. Іх умоўна можна падзяліць на структуры ці *інстанцыі нормы і антынормы* (кафедры беларускай мовы/Архэ). Таксама існуюць *інстанцыі актыўныя і пасыўныя.* Так, ТБМ імя Ф. Скарыны альбо Інстытут мовы і літаратуры імя Я. Коласа і Я. Купалы –

[1] J.-B. Marcellesi et L. Guespin.

прыклады “актыўнай” інстанцыі, прыкладам “пасыўнай” інстанцыі ці пасыўнага агента глётапалітыкі можна назваць пэўных індывідаў, пэўныя групы, калектывы (тэатральныя трупы, супрацоўнікі музэя, радыё, выдавецтва; яшчэ часта падчас спрэчак моўнага кшталту спасылаюцца на пэўныя вёскі, пэўныя рэгіёны, дзе захавалася мова, пэўная гаворка, якая лічыцца прыбліжанай да літаратурнай асновы). Ва ўмовах Беларусі просты грамадзянін таксама можа быць пасыўным агентам моўнага ці глётапалітычнага поля, але з узмацненьнем рускага аднамоўя беларусы губляюць гэтую здольнасьць, кампэтэнцыю. Таму нас у межах глётапалітытычнага аналізу ў беларускім кантэксьце цікавяць перадусім:

1. **Інстытуты нормы і антынормы (альбо нормы і альтэрнатывы):** Акадэмія навук з аднаго боку, і калектывы “Нашай Нівы”, “ARCHE” ці суполкі беларускай дыяспары – з другога.

2. **Актыўныя і пасыўныя інстанцыі:** ТБМ, Акадэмія навук, розныя інстытуты і кафедры бел. мовы, калектывы беларускамоўных часопісаў і выдавецтваў, як актыўныя інстанцыі; пісьменьнікі, інтэлектуалы, пэўныя альтэрнатыўныя суполкі, а таксама ARCHE, як пасыўныя інстанцыі.

Праз прызму глётапалітыкі, праз прызму розных, часта антаганістычных пазыцыяў і падыходаў, выразна бачны палітычны, ідэалягічны кампанэнт канфлікту, рознагалосьсе, якое ня бачнае ў сацыялінгвістычным аналізе. Так, сацыялінгвістычны аналіз патлумачыць, што “**э**” у слове фэмінізм – адзнака тарашкевіцы, а “**е**” у гэтым жа слове – наркамаўкі, але гэты падыход не патлумачыць гісторыі і перадгісторыі гэтага слова, не скіруе ўвагі на тое, чаму паўстала рознагалосьсе, адкуль яго карані, ігэтак далей. Сацыялінгвістыка не патлумачыць, што “**е**” была зьмененая, навязнаная на “**э**” гвалтоўна, яна не пакажа ўсёй гісторыі змаганьня за мову, дэбаты і кур’ёзы, якія паўставалі падчас змаганьня. Тады як глётапалітычны аналіз ахоплівае такія аспэкты і чыньнікі, як ідэалёгія (адначасова вельмі адрозныя бакі і формы ідэалягічнага: сьвецкасьць, фэмінізм, каляніялізм і пад.), эстэтыка, палітыка. Глётапалітычны падыход раскрывае нам дасюль завуаляваныя канфлікты, тэндэнцыі, разрэзы, якія ня могуць быць узьнятыя сацыялінгвістыкай. Так, глётапалітычны падыход ня толькі канстатуе, але і тлумачыць прычыны той ці іншай зьявы. Напрыклад, сучасныя беларускія палітыкі канстатуюць неверагоднае зьмяншэньне колькасьці беларускамоўных за апошняе дзесяцігодзьдзе, пераносячы адказнасьць за гэтае зьмяншэньне на натуральнасьць зьявы, нібы размова йдзе пра кліматычныя заканамернасьці. Глётапалітычны падыход якраз і тлумачыць, што тая ці іншая зьява – гэта заўсёды вынік пэўнай палітыкі ці ейнай адсутнасьці. Мова, як ніякая іншая зьява, залежыць

ад палітычнага, ад волі заканадаўцы, таму заняпад мовы, тым больш, дзяржаўнай мовы – вынік пэўнай палітыкі, а не стыхійнай бяды.

Так, напрыклад, глётапалітычны аналіз агентаў і інстанцыяў моўнага поля, а таксама аналіз ідэалёгіяў моўных канфліктаў дапамог намаляваць наступную схему (гл. ніжэй). Пяць пунктаў (эстэтыка, фэмінізм, сьвецкасьць, каляніялізм, спэцтэрміналёгія) зьяўляюцца пэўнымі крытэрамі спрычыненасьці, актыўнасьці і ўжываньня таго ці іншага стандарту мовы рознымі агентамі і інстытутамі.

### Разрэз моўнай рознагалосьсы ў Беларусі (прыклады):

***Наркамаўка***
*(праграма-мінімум)*

↕

1. Эстэтыка: прыгожае пісьменства і стандарт мовы
2. Фэмінізм: фэмінізацыя Nomina agentis (прэзідэнт/прэзідэнтка)
3. Сьвецкасьць: як перадаецца рэлігійная лексыка (бог/ Бог і пад.)
4. Праз прызму каляніялізму: ступень русіфікацыі і/ці аўтэнтычнасьці
5. Ступень распрацаванасьці спэцтэрміналёгіі ў тарашкевіцы і наркамаўцы

***Тарашкевіца***
*(праграма-максымум)*

На прыкладзе такой тэмы, як фэмінізацыя *Nomina agentis* беларускай мовы, выразна бачна, як з пытаньня выключна нутрымоўнага яна пераўтварылася не без уплыву ідэалягічнага (*русіфікацыя*) і вонкавага (*зноў жа чыньнік рускай мовы*) ў вялікае пытаньне ці нават праблему беларускай мовы. Пад уплывам рускай мовы натуральная фэмінізацыя зьнікла ў беларускай мове, саступіўшы месца стылістычнай норме мовы суседскай. Адсюль і паняткі "праграмы-мінімуму" (адкрытая ўплыву наркамаўка, якая мінімальна захоўвала спэцыфіку мовы і, напрыклад, адмовілася ад натуральнай фэмінізацыі) і "праграмы-максымуму" (тарашкевіца, якая максымальна прытрымлівалася клясычнага правапісу і нормаў, канонаў дыялектных).

Такім парадкам, глётапалітычны падыход ня толькі вылучае асноўныя бакі, асноўных актараў моўнага і сацыяльнага поля, але і прапануе шырокі спэктар тлумачэньняў паходжаньня дадзенай праблематыкі на ўзроўні як аб'ектыўным, навуковым, шматдысцыплінарным, так і публіцыстычным, простым. Адсюль беларуская мова ці ейныя праявы як у тарашкевіцы, так і ў наркамаўцы, як асноўны інтарэс нашага дасьледаваньня, мае трывожную дынаміку разьвіцьця на сучасным этапе. Дынаміку, паслабленную ня толькі стандартным рознагалосьсем, але перадусім палітычнай абыяка-

васьцю ці ігнараваньнем уладнымі і каляўладнымі элітамі Беларусі моўнага пытаньня. У выніку чаго мінімальныя праблемы сталіся максымальнымі, калі пад пагрозай апынуўся ня проста ўзровень разьвітасьці і спрычыненасьці мовы да сучаснага, але моўная кампэтэнцыя грамадзянаў, то бок, само існаваньне мовы наагул.

# КАМУНІКАЦЫЙНАЯ СТРАТЭГІЯ СМІ ВА ЎМОВАХ БІЛІНГВІЗМУ Ў БЕЛАРУСІ

ПАЛІНА МАСЛЯНКОВА

***Анатацыя:*** Прадметам даследавання з’яўляюцца прэцэдэнтныя феномены ў тэкстах беларускіх газет. Суцэльная выбарка праводзіцца ў двух беларускамоўных і двух рускамоўных выданнях за 1991, 2001, 2011 гады. Абраны перыяд і метад суцэльнай выбаркі дазваляюць прааналізаваць дынаміку звароту да прэцэдэнтных феноменаў, іх якасны і колькасны склад, моўную і культурную прыналежнасць ва ўмовах несіметрычнага білінгвізму і мульцікультуралізму ў Беларусі.

***Ключавыя словы:*** прэцэдэнтныя феномены, камунікацыйная стратэгія, білінгвізм, беларускія СМІ.

# COMMUNICATION STRATEGY OF MASS MEDIA IN THE CONTEXT OF BILINGUALISM IN BELARUS

***Abstract:*** The subject of research is intertextual elements in the Belarusian newspaper texts. The continuous sample is taken in two Belarusian and two Russian-language newspapers for 1991, 2001, and 2011. The chosen period and method of continuous sample allows analysing the dynamics of references to the intertextual elements, their qualitative and quantitative composition, linguistic and cultural identity in asymmetrical bilingualism and multiculturalism in Belarus.

***Keywords:*** Intertextuality (precedent phenomena), Communication Strategy, Bilingualism, Belarusian Media.

Моўная сітуацыя ў Беларусі на сённяшні дзень характарызуецца незбалансаваным беларуска-рускім двухмоўем, дзе большасць грамадзян і грамадскіх устаноў аддае перавагу рускай мове, пра што сведчаць шматлікія публікацыі даследчыкаў (*Иванова і інш., 1998; Лукашанец, 2009; Булыко и Крысина, 1999*). У гэтай няпростай сітуацыі ў няроўных умовах існуюць як рускамоўныя, так і беларускамоўныя выданні.

Для выяўлення і тыпалогіі камунікацыйных стратэгій СМІ ва ўмовах білінгвізму ў Беларусі былі абраны 4 газеты – дзве рускамоўныя ("СБ: Беларусь сегодня", "БелГазета") і дзве беларускамоўныя ("Звязда", "Наша ніва"). Для аналізу былі ўзяты папулярныя газеты рэспубліканскага маштабу, дзве з якіх дзяржаўныя ("СБ: Беларусь сегодня", "Звязда") і дзве недзяржаўныя ("БелГазета", "Наша ніва"). Такая выбарка бачыцца рэпрэзентатыўнай, паколькі адлюстроўвае не толькі білінгвістычную, але і светапогляд на біпалярную сітуацыю ў краіне.

Прадметам даследавання сталі **прэцэдэнтныя феномены** – культурна значныя і агульнавядомыя імёны, тэксты, сітуацыі, выказванні, да якіх неаднаразова звяртаецца ў маўленні тая ці іншая лінгвакультурная супольнасць і ўжывае іх у згорнутым, спрошчаным значэнні. Напрыклад, у артыкуле *"Па слядах Івана Грознага"* прэцэдэнтнае імя рускага цара ўжываецца ў значэнні сыназабойцы, а ў артыкуле *"Афрыканская Венецыя"* распавядаецца пра афрыканскую вёску на па́лях сярод вады. Так, у маўленні часта *Няміга* ўжываецца ў сэнсе небяспечнага натоўпу людзей і панікі, а *1937 год* стаў сінонімам жорсткіх рэпрэсій.

Прычыны звароту журналістаў да прэцэдэнтных феноменаў тлумачацца жаданнем прыцягнуць увагу чытача і ўсталяваць з ім кантакт, апелюючы да агульнага культурнага грунту. Камунікацыйныя стратэгіі журналістаў розняцца ў залежнасці ад таго, да якога пласта прэцэдэнтнасці ён/яна апелююць: нацыянальнага (рускага або беларускага), рэгіянальнага ці сусветнага. Вось прыклады прэцэдэнтных загалоўкаў з чатырох даследаваных газет за 2011 год, якія ілюструюць агульную карціну ўжывання прэцэдэнтных феноменаў у беларускіх выданнях:

| **"СБ: Беларусь сегодня"** | **"БелГазета"** | **"Звязда"** | **"Наша ніва"** |
|---|---|---|---|
| *Дорога уха к обеду* | *К нам едет кредитор* | *Мароз і сонца, дзень цудоўны...* | *"Егіпет Сёння": За кулісамі адной "рэвалюцыі"* |
| *Сельдь карпу не товарищ* | *И вновь продолжается бой* | *Не пакідайце ж мовы нашай...* | *Мінскія міліцыянты раскрылі крадзеж машыны па метадзе Шэрлака Холмса* |

| “СБ: Беларусь сегодня” | “БелГазета” | “Звязда” | “Наша ніва” |
|---|---|---|---|
| *Восторг — дело тонкое* | *Что кот грядущий нам готовит?* | *Тчэ, не забыўшыся, рука...* | *Ты кінула. Расія перанакіравала беларускую нафту ў марскія парты* |
| *Спасите наши уши* | *И укусят за бачок* | *Дарогі, якія мы выбіраем* | *За нашу і вашу свабоду — ідзе суд над грамадзянамі Расіі з Плошчы* |

У табліцы прыведзены найбольш характэрныя прыклады, якія ўжываюцца ў тым ці іншым выданні. У “Савецкай Беларусіі” часцей за ўсё гэта трансфармаваныя прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы, цытаты ці назвы прэцэдэнтных тэкстаў з рускай літаратуры або савецкага кінематографу. У той самай стылістыцы працуе “БелГазета”, але ў рэпертуары журналістаў гэтага выдання часта сустракаюцца адсылкі да сучасных беларускіх культурных рэалій (напрыклад, загалоўкі кшталту *“Верым! Можам! Не паможа!”,“Саня останется с нами”* і інш.). Газета “Звязда” таксама звяртаецца да класічнага акадэмічнага дыскурсу, да цытат з творчасці беларускіх класікаў, а таксама рускіх паэтаў, прычым у перакладзе на беларускую мову ў форме калькі. “Наша ніва” больш багата аперуе прэцэдэнтнымі феноменамі, чэрпаючы як з беларускіх нацыянальна прэцэдэнтных тэкстаў і рэалій, так і з агульнаеўрапейскага кантэксту.

У загалоўках журналісцкіх матэрыялаў часцей выкарыстоўваюцца прэцэдэнтныя тэксты і выказванні ў трансфармаваным выглядзе: *“У джазе толькі <u>Гамсун</u>”, “Той дзень, калі ўпала <u>сцяна</u>”, “<u>Лявон Вольскі</u> мяняе прафесію”* і г. д. Найбольш гнуткай фрэйм-структурай для падзейнай інфармацыі публіцыстычнага дыскурсу стаўся прэцэдэнтны тэкст “Хрыстос прызямліўся ў Гародні” Уладзіміра Караткевіча: Доктар Хаўз прызямліўся ў Гародні, Хрыстос прызямліўся на пляжы, АЭС прызямліцца на Гарадзеншчыне? Гарадзенскія чыноўнікі зноў не далі “прызямліцца Хрысту ў Гародні”.

У даследаваным матэрыяле намі былі знойдзены прыклады наступных трансфармацый:

1. Вар’іраванне семантыкі прэцэдэнтнага выказвання: а) буквалізацыя: *ВІАГРА: “Нам бы ноч прастаяць, ды дзень пратрымацца” – развражаў Мальчыш-Кібальчыш, разглядаючы ў душы сваю “ваенную тайну”*; б) двайная актуалізацыя: *“Па БТ пакажуць фільм "Катынь" Анджэя Вайды. Нешта вялікае ў лесе здохла”.*

2. Змена лексічнага складу прэцэдэнтнага выказвання: а) сінанімічная субстытуцыя: *“Не ўсё кату ў кайф”, “Людзі на дрыгве”;*

б) антанімічная субстытуцыя: *“Росквіт Азіі”;* в) тэматычная субстытуцыя: *“Хіба на нумар той можна забыцца?”;* г) паранімічная субстытуцыя: *“Былое і дупы”, “Мытная опера”;* д) дэнататная субстытуцыя: *“Голас мадэратара ў пустэльні”;* е) лексічная субстытуцыя: *“Всё смешалось в доме Лукашенко”.*

3. Граматычнае вар’іраванне структуры прэцэдэнтнага выказвання: *“А ці будзе хлопчык?”*

4. Колькасная змена кампанентнага складу прэцэдэнтнага выказвання: а) імплікацыя: *“Леаніды вяртаюцца...”, “Не ўсё тое золата...”;* б) эксплікацыя: *“Вялікі брат” ад МТС, “Патынсан. Зазірне сонца і ў яго аконца”.*

5. Сінтаксічнае вар’іраванне: *“Гадо можна больш не чакаць”, “Усё паранейшаму, нават імёны не змяніліся”, “Не кожны мост дацягнецца да іншага берагу Віцьбы”.*

Розныя віды трансфармацый выказванняў найчасцей спалучаюцца: *Станем мурам глямурным* (лексічная субстытуцыя ўскладнена фанетычным падабенствам з папярэднім кампанентам), *Сцягі з-над Нёману* (лексічная субстытуцыя з імплікацыяй). Найбольш частотнымі з’яўляюцца прыёмы змены лексічнага складу і сінтаксічнай структуры прэцэдэнтнага выказвання. Намі не было выяўлена асобных відаў граматычных і сінтаксічных трансфармацый, такіх як нейтралізацыя граматычнага значэння, унутрымадэльнае і міжузроўневае сінтаксічнае вар’іраванне. Аднак у сучасным беларускамоўным публіцыстычным дыскурсе назіраецца адметны від квазіцытацый – пераклад расійскіх прэцэдэнтных выказванняў на беларускую мову ці, часцей за ўсё, на трасянку: *“Месца сустрэчы змяніць нельга”, “Прамень святла ў цёмным царстве”, “Уновь прадалжаецца бой!”.*

У працэсе даследавання было заўважана, што прадзяржаўныя газеты вельмі асцярожна звяртаюцца да рэсурсаў прэцэдэнтнасці, у той час як незалежныя выданні даволі смела абыходзяцца не толькі з класічным наборам імёнаў і цытат, але і з сучасным культурным матэрыялам, што паступова набывае статус прэцэдэнтнага.

Папярэднія вынікі паказваюць, што рускамоўныя СМІ значна радзей апелююць да беларускага культурнага грунту, чым беларускамоўныя выданні. Аўтары беларускамоўных выданняў у большай ступені кіруюцца нацыяцэнтрычнай стратэгіяй камунікацыі, у той час як рускамоўныя газеты, баючыся камунікацыйнай паразы, імкнуцца да ўжывання сусветнага, а часцей расійскага пласту прэцэдэнтнасці, што, адпаведна, адбіваецца на канструяванні чытацкай ідэнтычнасці. Такім чынам, беларускія СМІ на ўзроўні культурных алюзій знаходзяцца ў значнай ступені пад уплывам рускага культурнага поля.

Пілотная выбарка матэрыялу з выданняў 1991, 2001, 2011 гадоў паказвае, што зварот да культурна значных феноменаў у матэрыялах прэсы за дваццаць гадоў незалежнасці Беларусі расце ў геаметрычнай прагрэсіі і з’яўляецца адным з дзейных інструментаў канструявання ідэалогіі і нацыянальнай ідэнтычнасці. Матэрыялы 1991 года страцяць рытарычнымі пытаннямі, лозунгамі і дырэктывамі накшталт *“За беларускую мову – у суд”, “Грэчка – калгасная валюта”, “Ці пагражае нам голад?”* і г. д., у той час як цяпер загалоўкі такога кшталту можна сустрэць толькі на перадавіцах дзяржаўных газет. Гэта тлумачыцца зменай камунікацыйнай стратэгіі СМІ: раней увага і думкі чытача заваёўваліся гучным словам, цвёрдай фразай са спасылкай на ўрад або нейкі аўтарытэт, цяпер жа чытач з большай ахвотай звяртае ўвагу на ёмісты загаловак з алюзіяй на агульны культурны грунт, вядомае імя або сучасныя рэаліі.

Даследаванне яшчэ не скончана, таму пакуль няма дакладных лічбаў па ўжыванні прэцэдэнтных феноменаў тым ці іншым выданнем у той ці іншы перыяд, але ўжо можна з упэўненасцю сцвярджаць, што за дваццаць гадоў незалежнасці Беларусі камунікацыйная стратэгія СМІ стала больш дэмакратычнай, забаўляльнай, а ў складаных умовах незбалансаванага білінгвізму ўсё больш падпадае пад уплыў рускага культурнага поля.

***Бібліяграфія***

1. Іванова, С. Ф., Іваноў, Я. Я., Мячкоўская, Н. Б. (1998). *Сацыякультурная прастора мовы.* Мінск: Веды.

2. Лукашанец, Аляксандр (2009). “Сацыяльная стратыфікацыя беларускай мовы,” у Чумак Л. Н. (общ. ред.), *Язык и социум: материалы VIII Междунар. науч. конф., г. Минск, 5–6 дек. 2008 г. В 2 ч. Ч. 1.:* 36–40.

3. Булыко, А. Н., Крысина Л. П. (ред.) (1999). Типология двуязычия и многоязычия в Беларуси. Минск: Беларуская навука.

# ВОСПРИЯТИЕ ЦЕННОСТЕЙ НАЦИОНАЛЬНОЙ КУЛЬТУРЫ СОВРЕМЕННЫМИ БЕЛАРУСАМИ

АННА ПАВЛОВА

***Аннотация:*** Проблема возрождения, сохранения и популяризации национальной культуры и языка является одной из важных для любого народа. Не являются исключением здесь и беларусы. Определение особенностей влияния таких агентов социализации, как семья, дошкольные учреждения, школа, СМИ, на воспитание личности с высоким уровнем национальной идентичности имеет немалое значение для анализа и объяснения социокультурных явлений в современном беларусском обществе.

***Ключевые слова:*** национальная культура, агенты социализации, социальная оценка, идентичность, национальная общность.

# PERCEPTION OF THE NATIONAL CULTURE VALUES BY MODERN BELARUSIANS

***Abstract:*** The national culture and language represent value for any people; the features and originality of the nation are expressed through them. Definition of the influence of such socialization agents as family, preschool, school, mass media and others on raising an individual with a high national identity level is very important for the analysis and explanation of the cultural phenomena in the modern Belarusian society.

***Keywords:*** National Culture, Agents of Socialization, Social Value, Identity, National Community.

Национальная культура и родной язык представляют огромную ценность для любого народа, через них проявляются особенности и самобытность нации. Определение особенностей влияния национальной среды на воспитание личности с высоким уровнем национальной идентичности имеет немалое значение для анализа и объяснения социокультурных явлений в современном беларусском обществе. Возрождение национальной культуры, сохранение её основных элементов, повышение авторитета среди населения – одна из главных задач государства, претендующего на сохранение самобытности и уникальности своей нации.

Весной 2010 года в Могилёвской области "Могилёвским институтом региональных социально-политических исследований" проведён опрос, в котором приняли участие 904 респондента в возрасте от 16 лет и старше. Они были отобраны по квотно-пропорциональной выборке, с учётом половозрастной структуры населения области, методом анкетирования. Изучение социальной значимости беларусской национальной культуры и языка в современном обществе помогает выработать представление о том, насколько сегодня действенны данные механизмы формирования национального самосознания.

Подавляющее большинство респондентов (85.4 %) полагают, что беларусскую культуру необходимо возрождать. Каждый десятый (11.7 %) высказал противоположную точку зрения. Многие участники исследования (Состояние и пути.., 2010), относя себя к представителям беларусской национальности, не считают необходимым и важным понимать и разговаривать на родном языке, уважать и сохранять традиции и обычаи предков, знать историю своего народа. Особенно характерно это для молодого поколения, становление которого происходило в условиях серьёзных трансформаций в политической и экономической сферах, переоценки культурных, нравственных, духовных, патриотических, религиозных и других ценностей общества, что было связано с распадом СССР и становлением независимости Беларуси.

В роли основных агентов национальной социализации личности чаще выступают СМИ (34.2 %) и школа (32.6 %). Так, каждый пятый респондент (20.4 %) приобщается к культуре и истории через художественные фильмы, которые транслируются средствами массовой информации; 17.6 % опрошенных основным источником знаний считают художественную литературу. Низкий информационный потенциал в процессе получения знаний о национальной культуре имеют такие важные для человека сферы межличностного общения, как семья (4.8 %) и работа (6.9 %).

Участникам социологического исследования предложили определить, что в их понимании означает беларусская национальная культу-

ра. Это позволило сформировать условный рейтинг культурных маркеров, которые, по мнению опрошенных, определяют уникальность беларусской культуры.

Так, 65.9% респондентов понимают под национальной культурой традиции народных праздников; 36.1 % в качестве главного культурного маркера определяют беларусский язык, такая точка зрения преобладает среди молодого поколения. Треть опрошенных связывают культуру народа с национальной кухней (30.5 %), национальной одеждой и её элементами (30.0 %). Практически каждый четвертый высказал мнение, что культура Беларуси проявляется в неповторимости народных песен (26.9 %) и ремёсел (24.9 %). Ещё 23.1 % считают, что уникальность культуры проявляется в народных сказках, легендах, преданиях. Беларусский танец как культурный маркер отметили 14.0 % опрошенных. Сельский образ жизни, то есть особенности ведения хозяйства и уклад жизни сельчан, выбрали 13.2 %. Такого мнения придерживается каждый пятый (22.3 %) житель села. Каждый десятый респондент (12.1 %) непременной частью национальной культуры считает музыку. Таким образом, в условном рейтинге среди маркеров национальной беларусской культуры безоговорочное лидерство принадлежит обычаям, сохранившимся и передающимся из поколения в поколение посредством народных праздников и традиций.

В ходе анкетирования более половины (65.8 %) отметили невысокий уровень знакомства с культурой народа Беларуси. И это при том, что 89.8 % опрошенных отнесли себя к представителям беларусской национальности. Вариант ответа "хорошо знаком" выбрал каждый четвёртый респондент (25.7 %). Чаще других такую уверенность демонстрировала молодёжь (38.4 %) и респонденты пенсионного возраста – старше 60 лет (37.8 %).

Предложение о введении в школе спецкурса по изучению беларусской национальной культуры с целью более глубокого знакомства с обычаями и традициями предков поддержали 62.9 % респондентов. Каждый пятый (19.6 %) придерживается противоположной точки зрения. Достаточно большое число человек (17.5 %) остались равнодушными к решению данного вопроса. Молодёжь (до 29 лет) не особенно желает получать такие знания в школе, среди них гораздо больше тех, кто высказался против, в сравнении с другими возрастными группами.

Школа является популярным источником, посредством которого жители Беларуси приобщаются к культуре и истории страны. Именно система школьного образования смогла бы способствовать большей популяризации национальной культуры среди подрастающего поколения и всего населения страны.

В отношении популяризации беларусского языка 62.6 % полагают, что его необходимо популяризировать и возрождать; не согласны с таким мнением 32.6 % респондентов. Воздержались от ответа на поставленный вопрос 4.8 %. Старшее поколение респондентов чаще склоняется к мнению о необходимости популяризации и возрождения национального языка. На вопрос социологической анкеты: "Хотели бы вы, чтобы ваши дети (внуки) использовали в повседневном общении беларусский язык?" – получены следующие ответы: количество как противников (16.5 %), так и сторонников (17.5 %) популяризации и широкого применения беларусского языка примерно одинаковое среди подрастающего поколения. Тогда как те, кто выбрал ответ "пусть сами решают", составили больше половины (66.0 %) от принявших участие в опросе.

Среди причин, по которым беларусский язык не имеет широкого распространения в повседневном общении, 28.2 % опрошенных назвали недостаточное использование беларусского языка в работе государственных учреждений. Тем самым отпадает необходимость его употребления работниками этих структур и посетителями. Ещё 26.9 % считают, что в советский период беларусский язык был вытеснен из повседневного общения языком межнационального общения – русским. По мнению каждого четвёртого (25.4 %), население стесняется разговаривать на беларусском языке. Чаще других такую точку зрения высказывали молодые люди до 29 лет. Незначительную роль семьи, ввиду отсутствия семейной культуры общения на беларусском языке, отмечает пятая часть опрошенных, ещё 15.8 % перекладывают ответственность на учебные заведения.

Популяризация беларусской национальной культуры должна затрагивать все слои населения, не может остаться без внимания и подрастающее поколение. Наиболее действенными методами популяризации беларусской культуры и языка среди детей и подростков взрослые считают показ мультфильмов и детских фильмов на основе беларусских сказок (41.8 %), а также посещение музеев и выставок (40.3 %). С ними солидарны и дети: смотреть мультфильмы и сказки согласны 37.7 %, а посещать музеи и выставки – 42.0 %. Среди самых непопулярных мер названы посещение спектаклей по произведениям беларусских авторов (12.4 %) и участие в школьных постановках по произведениям беларусских писателей (12.4 %). Менее привлекательными дети считают занятия народными танцами, песнями (16.7 %) и увеличение количества часов беларусского языка в саду и школе (16.0 %).

Несмотря на то что в Беларуси титульной нацией являются беларусы, нельзя не отметить низкий интерес основной массы граждан страны к национальной культуре и языку. Различные социально-демогра-

фические группы отличаются по восприятию традиционной культуры и её компонентов. Представители старшего поколения больше интересуются наследием предков и чаще высказываются за необходимость его популяризации, в сравнении с молодёжью. Для более широкого использования элементов национальной культуры в повседневной жизни и их актуализации гражданам необходима, в том числе, и более активная деятельность социальных институтов, таких как семья, СМИ, школа, вузы и др., которые в немалой степени влияют на национальную социализацию личности.

### *Библиография*

1. *Состояние и пути повышения социальной значимости белорусской национальной культуры и языка* (2010). Могилевский институт региональных социально-политических исследований; № ГР 20100798; рук. темы Н.Е. Лихачёв, отв. исполн. А.В. Павлова. Могилёв.

# МАДЭЛІ ТРАНСФАРМАЦЫІ БЕЛАРУСКАГА ТРАДЫЦЫЙНАГА ГРАМАДСТВА НА ПРЫКЛАДЗЕ З’ЯЎЛЕННЯ ФЕНОМЕНУ ЦЯЛЕСНАГА СОРАМУ

ГЕНАДЗЬ СІВОХІН

***Анатацыя:*** Артыкул прысвечаны пытанню гендарнага парадку, які характарызуецца наяўнасцю супрацьлеглых працэсаў, што вызначаюць сацыяльны статус мужчын і жанчын, размытасць іх культурных норм і роляў. Аўтарам актуалізуюцца пытанні пошуку гістарычных асноў фармавання гендарных суадносінаў у беларускай традыцыйнай культуры. У артыкуле, прысвечаным тэме мадэрнізавання гендарных роляў у беларусаў, аналізуецца праблема рэканструкцыі працэсу будавання новых суадносін “мужчынскага” і “жаночага” пад уплывам мадэрнасці.

***Ключавыя словы:*** мадэрнасць, гендар, традыцыйнае грамадства, сацыяльны парадак.

# MODELS OF TRANSFORMATION OF TRADITIONAL BELARUSIAN SOCIETY: A CASE OF EMERGENCE OF FLESHLY SHAME PHENOMENON

***Abstract:*** The article focuses on the issue of gender order characterized by the opposite processes determining the social status of men and women. It actualizes the search for historical grounds of gender relations formation in the Belarusian traditional culture. The article on modernization of gender roles in the Belarusian culture analyses the problem of reconstruction of the process of creation of new relations of “male” and “female” under the influence of modernity.

***Keywords:*** Modernity, Gender, Traditional Society, Social Order.

Дзейнік, на якім грунтуецца канструяванне гендару ў Еўропе ў мадэрнасць – гэта галіна прыватнага. Праблемнасць канструявання прыватнага паходзіць з пера-канструявання публічнага ў мадэрнасці, альбо, інакш, са з’яўлення ў мадэрнасці публічнага. І калі парушэнне традыцыйнай публічнасці ўплывае і на новастворанныя прыватныя стасункі, тыя пачынаюць пераважаць у сацыяльных стасунках паміж людзьмі. Найбольш яскрава гэта праявілася непасрэдна ў інтымных стасунках: “... фізічнае каханне трансфармавалася з эратызму ў сексуальнасць. ... Эратызм азначаў, што сексуальнае выказванне адбывалася праз дзею – выбар, падаўленне, узаемадзеянне. Сексуальнасць жа – гэта не дзея, а стан, пры якім фізічны акт кахання ёсць сам па сабе зразумелым пасьледкам, натуральным вынікам для людзей, якія маюць інтымныя стасункі адно з адным” (Сеннет, 2002: 13). Такім чынам вынікалі іншыя – новыя – гендарныя практыкі, а, значыцца, і новае разуменне, новае месца і значэнне гендару. У выніку паўстае падзел на прыватнае і публічнае. Гендар/пол становіцца сацыяльным і, у выніку, публічным, а не прыватным. Гендарныя практыкі ў мадэрнасці набываюць статус сацыяльнай дзеі; гэтак жа, як і астатнія сацыяльныя дзеі, яны маюць падпарадкоўвацца пэўным правілам, умоўнасцям і абмежаванням.

Публічнае можна вызначыць як мадэрнасны гарадскі праект, як тую сферу, дзе стасункі паміж асабовым ды безасабовым губляюць акрэсленую мяжу: стасункі паміж людзьмі набываюць рысы “апантанасці” асабовым фактарам за кошт менш асабовых “кшталту фільтру, які забяспечвае наша рацыянальнае разуменне соцыюму” (Сеннет, 2002: 10–11). Менавіта на абшарах гораду новае публічнае жыццё набывае рысы фармальнасці, г. зн. “абазначвае тыя сувязі супольнага і ўзаемных абавязкаў, якія існуюць паміж людзьмі, якія не звязаныя сямейнымі альбо асабовымі стасункамі; гэта хутчэй сувязі натоўпу, “народе”, дзяржавы, а не сямейныя сувязі альбо сяброўскія” (Сеннет, 2002: 10). У (вялікіх) гарадах паўстае недаацэнка стасункаў супольнасці раней незнаёмых людзей – чужаніцаў. Новая публічная сацыяльнасць вынікае як “акт узаемнага раскрыцця ўласнай самасці” (Сеннет, 2002: 11).

У мадэрнасць традыцыйная квазіпублічнасць – сацыяльная дзейнасць актараў, якая была накіравана вонкі, – становіцца чымсьці, што не мае сэнсу і саступае месца новай публічнасці, якая цяпер грунтуецца не на прэзентацыі, напрыклад, роду, а дзе асабістае цела становіцца галоўнай рэпрэзентантай. Гэта адбіваецца на ўсёй сацыякультурнай прасторы, перадусім на арганізацыі сацыякультурнай прасторы ў горадзе. Задачы новай сацыяльнай культуры – гэта змешванне і распушчэнне вонкавага і ўнутранага: з аднаго боку, ствараецца інтымнасць, якой традыцыя не ведала, але з другога – інтымнасць мае быць “празрыстай”.

Калі раней чалавека вызначалі галоўным чынам паводле яго сацыяльнага стану, полу, узросту, роду заняткаў, дык з прыйсцем новай эпохі ў Еўропе чалавека пачынаюць усведамляць не толькі як прадстаўніка пэўнай групоўкі (сацыяльнай, узроставай, палавой, прафесійнай і г.д.), але і як індывіда з уласцівымі індывідуальнымі рысамі (Ле Гофф, 2001: 127–128). Такім чынам, мы можам сцвярджаць, што прэмадэрнасная сацыякультурная арганізацыя, у тым ліку і ў Беларусі, не вызначалася існаваннем падзелу на публічную і прыватную прасторы (прынамсі, у сённяшнім разуменні гэтага слова), што можна (часткова) прасачыць пры аналізе мужчынскіх і жаночых сацыяльных роляў.

З'яўленне ў беларусаў публічнай прасторы, падзелу сацыяльнай прасторы на публічную і прыватную было павязана з мадэрнасцю. Найбольш відавочна гэты падзел праяўляецца праз з'яўленне цялеснага сораму, што ў прэмадэрнаснай культуры беларусаў можа быць прадэманстравана на аналізе зменаў у традыцыйным жытле, калі пад уплывам новых культурных узораў адбыліся значныя перамены як у інтэр'еры жыллёвай прасторы (вясковай і мястэчковай), гэтак і ў самім архітэктурным вырашэнні азначанай прасторы. Так, традыцыйнае двухкамернае жытло не мела ўнутранага падзелу (у сучасным разуменні). Усе спалі разам на поле. Там адначасова і займаліся сексам, пакуль астатнія "адпачывалі". У сярэдзіне – другой палове XIX ст. вылучаюцца інтымныя прасторы і з'яўляецца цялесны сорам, у выніку чаго адбыліся значныя змены і ва ўсім інтэр'еры дома. Замест полу з'яўляюцца асобныя ложкі, шафамі тэрыторыя хаты маркіруецца на зоны, дзе асобна "жылі" бацькі і дзеці.

Падзел з вычляненнем ды маркіраваннем зон уяўляецца ўласцівым мадэрнаснай традыцыі і вызначаецца тым, што "у размяшчэнні мэблі дакладна адбіваюцца сямейныя і сацыяльныя структуры часу. Тыповы буржуазны інтэр'ер носіць патрыярхальны характар – гэта сталовая плюс спальня" (Бодрийяр, 2001: 18). Такім чынам, вынікае прынцыпова новая маркіроўка прасторы з вызначэннем новай асі буфет – ложак. Больш відавочна рэарганізацыю жыллёвай прасторы як маркёра мадэрнізавання цялесных практыкаў маглі б прадэманстраваць змены ў самой хаце – вясковым/мястэчковым жытле. Адбывалася маркіраванне новай прасторы, вычляняліся зоны ў публічным экстэр'еры жыллёвай прасторы (гораду – ня-гораду), ствараліся новыя зоны і новы падзел у межах гэтых зон, у тым ліку ствараўся падзел на мужчынскія ды жаночыя "тэрыторыі адказнасці" ў межах гэтай прасторы. Мужчынскія і жаночыя зоны выдзяляліся праз "прымусовае" навязванне новых стандартаў адносна самых разнастайных аспектаў будзённага жыцця – ад маралі да гігіены (Platt, 2007: 758).

У выніку не толькі перайначвалася разуменне публічнасці і прыватнасці з прапісваннем туды цялесных практык, але ў новай гарадской традыцыі і прыватная прастора з традыцыйнымі прыватнымі цялеснымі практыкамі падпарадкоўвалася публічнасці (Platt, 2007: 757–758). Традыцыйна гэтыя змены ў арганізацыі інтымнай прасторы хаты звязваюць з правядзеннем рэформы па адмене прыгоннага права, у выніку якой адбыліся значныя эканамічныя змены передусім у ня-горадзе/хаце (але ў горадзе таксама). Эканамічны стан вяскоўцаў змяніўся, і яны займелі больш мажлівасцяў да добраўпарадкавання свайго жытла, сталі інакш арганізоўваць яго: не толькі будаваць коміны ў печках (на што звычайна звяртаюць увагу ў першую чаргу), але і інакш арганізоўваць саму прастору свайго жытла – і інтэр'ер, і экстэр'ер.

На нашу думку, аднак, звядзенне такіх глабальных зрухаў у прэмадэрнаснай хаце выключна да адмены прыгону і эканамічных складнікаў азначанай рэформы выглядае досыць нацягнутым. Прынамсі, "эканамічнае" жыццё хаты не магло так глабальна паўплываць на ўласцівыя беларускаму прэмадэрнаснаму грамадству традыцыйныя ўстаноўкі адносна вырашэння прасторавай арганізацыі (наваяўленага) інтымна-прыватнага ці публічнага асяродку. Калі ў вызначэнні прычын гэтых пертурбацыяў шукаць эканамічны складнік, тады варта метадалагічна грунтавацца на прапанаванай Луі Альцюсэрам (Althusser) ідэі пра ўзнаўленне сіл вытворчасці і разглядаць гэтыя змены ў хаце як мадэрнасны ўплыў гораду дзеля падпарадкавання ня-гораду з мэтай авалодвання новымі рэсурсамі (Althusser, 1970).

Такім чынам, мы можам канстатаваць, што гарадская публічная цялеснасць, пачынаючы з сярэдзіны XIX ст., актыўна распаўсюджваецца на не-гарадскі і не-публічны асяродак – на беларускую (местачковую і, асабліва, вясковую) хату, выцясняе традыцыйныя прэмадэрнасныя ўстаноўкі адносна праявы цялеснага ў публічным і прыватным і замяняе іх новай гарадской публічнасцю, якая імпліцытна ўключае ў сябе і новую гарадскую прыватнасць: "адначасова са змяненнем у стасунках індывіда з сям'ёй і соцыумам мяняецца і стыль дамавога інтэр'ера" (Бодрийяр, 2001: 20).

У выніку спробаў мадэрнаснага гораду распаўсюдзіць на хату свае стандарты там утваралася пэўная "публічная" прастора кшталту гарадской праз "стварэнне архітэктурна арганізаванай прасторы з выкарыстоўваннем сродкаў прафесійнай архітэктуры – рэгулярнасці, сіметрыі, рытму. Пры гэтым перадусім улічвалася перспектыўнае ўспрыняцце паселішча знутры" (Трацевский, 1989: 31). У выніку традыцыйная прэмадэрнасная арганізацыя жылой прасторы, якая

